

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 5 (травень), 2016

# Мяжа




**20 год Вясны**

(старонка 10)

## ЗЬМЕСТ

## Дэпартацыя

29 красавіка адбылося судовае пасяджэнне па справе Уладзіслава Вараксіна, асобы без грамадзянства, якога затрымалі 13 красавіка і рыхтавалі да дэпартацыі.

У сваёй скарзе на пастанову першага намесніка начальніка АУС Брэсцкага райвыканкама І.С. Федарука ад 13.04.2016 аб дэпартацыі, Уладзіслаў прасіў пакараць яго штрафам без дэпартацыі, бо з 45 гадоў свайго жыцця 43 гады пражыў у Беларусі, нарадзіўся і вырас у Берасці, адбываў свае пакаранні і працаваў таксама ў Беларусі, у Беларусі 2 разы ажаніўся і мае ў Брэсцкім раёне непаўнагадовага сына і састарэлую маці, якія патрабуюць ягонай дапамогі і апекі...

Падставай да дэпартацыі паслужылі ягоныя адміністратыўныя парушэнні, несваечасовая рэгістрацыя па месцы жыхарства, у дадатак скончыліся 90 дзён знаходжання на тэрыторыі рэспублікі замежніка. Справа ў тым, што замежным грамадзянінам Уладзіслаў Вараксін ніколі не быў, адзіная краіна, якая выдала яму пашпарт – гэта СССР, а дакладна Аддзел унутраных спраў Маскоўскага райвыканкама г. Брэста. Пра якія 90 дзён гаворка да канца не ясна.

Уладзіслаў кажа, што 12 красавіка ён прыйшоў у АГіМ (аддзел па грамадзянству і міграцыі), каб працягнуць рэгістрацыю, але з ім не сталі гаварыць – выгналі, 13 красавіка ён ізноў прыйшоў, каб неяк вырашыць праблему, але яго арыштавалі.

Маці Вараксіна Юзэфа пачала змагацца за сына, але з ёй таксама ніхто з міліцыянтаў не захацеў размаўляць, нават у ізалятары часовага ўтрымання (ІЧУ) адмовіліс ўзяць перадачу.

Удзел адваката скрануў з месца справу, з'явілась магчымасць камунікацыі з затрыманым, пачалі браць перадачы. Была напісана скарга.

29 красавіка ў судзе Брэсцкага раёна інтарэсы затрыманага прадстаўлаў адвакат... Суд адмовіў Уладзіславу Вараксіну ў задавальненні скаргі. Як вынік пастанова была імгненна выканана – ужо праз некалькі гадзін Вараксін ехаў цягніком у бок Расеі пад канвоем. Дэпартацыя на 5 гадоў. 72-гадовая маці плакала: "Я яго (сына) больш не пабачу..."


20 кастрычніка 1970 г.
число, месяц, год нараджэння
месца нараджэння
гор. Брэст
рускі
нацыянальнасць
Аддзелам унутраных
кім выдадзен пашпарт
спраў Маскоўскага
райвыканкома г. Брэст
МИНИСТЕРСТВО ВНУТРЕННИХ ДЕЛ СССР 805-018
Начальнік органа ўнутраных спраў
13 студзеня 19 87 года
VI-АЛ № 560092
http://brestspring.com/

Каментар праваабаронцы Уладзіміра Вялічкіна:

“Мяркую, што прынцыповае рашэнне аб лёсе Вараксіна было прынятае задоўга да суда. Суд яшчэ не пачаўся, а “праяздны дакумант ужо выпісаны”. У 12 гадзін суд скончыўся, а ў 17 гадзін ён ужо на вакзале пад канвоем. Мы выпадкова даведаліся, што яго ўжо рыхтуюць на дэпартацыю, спадзяваліся абскардзіць рашэнне суда...

Уладзіслаў Вараксін ужо ў Расеі. Для яго выраблены адмысловы дакумант на падставе, якога ён можа два з паловай месяцы легальна знаходзіцца на тэррыторыі Расіі, а што потым? Расейскае заканадаўства, таксама як і беларускае, не прадастаўляе грамадзянства асобам у якіх не знята судзімасць. Вараксін мае непагашаную судзімасць.

Я прыпускаю, што выпадак з асобай без грамадзянства Вараксіным, можа быць звязаны з вайной ва Ўкраіне. Усе мы чулі, што на баку сепаратыстаў ваююць, алкаголікі, наркаманы, крымінальнікі. Нядаўна ў СМІ прагучала інфармацыя, што ў сувязі з вялікімі стратамі ў Л/ДНР ідзе набор добраахвотнікаў. Дапускаю, што асобам кшталту Вараксіна на пэўным этапе прапануюць “праяздны

дакумант” пашпарт ДНР, аўтамат і “прапіску” на могілках... Класічная ўтылізацыя асацыяльнага элементу, схема не новая, падобнае было ў Югаславіі, калі крымінальнікаў выкарыстоўвалі супраць паўстаўшых рэгіёнаў...

Уладзіслаў Вараксін намагаўся стаць паўнавартасным членам грамадства, ажаніўся, завёў гаспадарку, але адсутнасць грамадзянства і бытавыя абставіны не дазвалялі яму нармальна працаўладкавацца і наладзіць жыццё. Дзяржава выштурхнула яго ў невядомае. Мы праваабаронцы пастараемся адсачыць ягоны лёс і дапамагчы”.

## Расейскія мотаваяжоры і іх паліттэхналогіі

Мне глыбока непрыемны гэты тып Залдастанаў і ягоны танны піяр на вайне ды людзкой памяці пра яе. І гэтыя клоўны-воўкі на матацыклах з сьцягамі арміі ген. Уласава, які заклікаў ваяваць з Гітлерам за інтарэсы нацыстоўскай Нямеччыны, яшчэ будуць вучыць еўрапейцаў, як трэба шанаваць памяць тых, вызваліў Еўропу ад нацызму?!

Гэта пры тым, што ў самой Расеі (пад Масквой і Валгаградам, на Смаленшчыне, пад Псковам, Ноўгарадам, Курскам і інш.) ДАГЭТУЛЬ ляжаць у лясах, палях і ў балотах НЕПАХАВАНЫЯ ПА-ЛЮДЗКУ косткі мільёнаў простых салдат! Хапае і занядбаных помнікаў салдатам апошняй вайны і ў самой Расеі.

Але, прызнаюся, мне таксама зусім не цікава, дзе і каля якога помніка пастаяў гэты Залдастанаў, і што ён пры гэтым плёў. Больш важна — як на гэтыя яго ваяжы праз нашую краіну рэагуюць беларусы. (Правільна адрэагавалі пад Баранавічамі, малайцы!). Для мяне абсалютна відавочна, што Залдастанаву патрэбны былі ўвага і скандал. І гэтага ён чарговы раз дабіўся сёлета вельмі лёгка, дзякуючы ўвазе да яго персоны найперш недзяржаўных СМІ.

Цікава, што дзяржаўныя СМІ гэты ваяж, здаецца, практычна праігнаравалі. І, я бы сказаў, правільна зрабілі. Бо калі спыніць яго прыезд у Беларусь пры сёньняшніх уладах немагчыма і, акрамя эмоцыяў, асаблівых праўных падставаў для забароны на ўезд для яго няма ці іх трэба добра-такі пашукаць, найлепш было б проста

прамаўчаць і не піярыць гэтую купку залдастанаўскіх ваўкоў. Поўны ігнор быў бы напэўна, маларэальны для журналістаў, але хоць бы адстароненае журналісцкае назіраньне за тым, што адбываецца, бяз тлуму вакол іх і без ўспышак фота і відэа-камераў ды просьбаў аб каментарах было найлепшай рэакцыяй на кучку танных мотапрапагандыстаў. Але для гэтага патрэбныя разуменьне яго мэтаў (піяр, увага і скандал) і мінімальная салідарнасьць журналістаў, каб іх саміх не выкарыстоўвалі для стварэньня падзеі.

І калі ўжо і дайшло, як яны і разьлічвалі, да міні-прэсканферэнцыяў (хоць лепш было б зусім не размаўляць з імі, а з нашымі размаўляць, хто вакол іх круціўся), то я бы задаў зусім іншыя пытаньні Залдастанаву. Напрыклад, такія:

— Ці правільна ўшаноўваць памяць савецкіх салдат у Еўропе, разьязджаючы з сьцягамі, пад якімі ген. Уласаў заклікаў ваяваць за Гітлера і інтарэсы нацыстоўскай Германіі?

— Ці падавалі залдастанаўцы пісьмовую заяўку на масавае мерапрыемства ў Берасьці за 15 сутак, як гэтага звычайна патрабуюць ад беларусаў?

Вось апошняе пытаньне мяне, напрыклад, вельмі цікавіць. Асабліва, ці заключалі яны папярэдне дамову з міліцыяй і хуткай дапамогай на абслугоўваньне масавага мерапрыемства і колькі гэта для іх каштавала.

P.S.: Паглядзеў, як асьвятлялі вяж залдастанаўцаў некаторыя польскія СМІ. Мне падалося, што такой звышувагі, якую стварылі вакол гэтага тыпа на матацыкле нашыя незележныя СМІ, у польскіх выданьнях не было. Гэта была адна з вялікай колькасьці навінаў і без асаблівых фотасесіяў ды інтэрв’ю з імі. Увага ў іх была больш на каментарах і дзеяньнях сваіх, палякаў.

У нас жа, на мой погляд, незалежныя СМІ незаўважна для сябе сталі ахвярамі расейскіх паліттэхнолагаў і ўключыліся ў гульню па ЧУЖЫХ правілах, па сутнасьці сталі сумеснымі творцамі «падзеі». На фота з Берасьцейскай крэпасьці было такое ўражаньне, што журналістаў было больш, чым саміх удзельнікаў мотаваяжу з Расеі...

Асьвятляючы такія падзеі, важна ўсё ж таксама добра падумаць, каб ня стаць ахвярай расейскіх паліттэхналогіяў і не гуляць у іх гульні.

P.P.S: Яшчэ адно цікавае пытаньне без адказу (да ўладаў і ДАІ) прачытаў на адным з форумаў: чаму Залдастанаў разьязджаў свабодна па гораду без шлему, куды глядзела ДАІ?

http://jacviah.livejournal.com/52931.html

## БелТА прагаварылася аб узроўні медыцыны

У Берасцейскай вобласці праз брудныя рукі лекараў 16 чалавек падхапілі інфекцыі.

3 траўня на сайце дзяржаўнага навінавага агенцтва БелТА быў надрукаваны матэрыял пад загалоўкам «Медработнікі Берасцейскай вобласці за год выкарыстоўваюць да 30 т сродкаў для апрацоўкі рук». У артыкуле лекары давалі справаздачу аб закупках сродкаў для дэзінфекцыі ў лякарнях.

Аднак самую цікавую інфармацыю, як высветліў сайт charter97.org, дзяржаўныя журналісты агучылі ў самым канцы артыкула. Выяўляецца, у 2015 годзе ў арганізацыях аховы здароўя Берасцейскай вобласці афіцыйна зарэгістравана 16 выпадкаў інфекцый, звязаных з наданнем медыцынскай дапамогі пацыентам. Па пяць выпадкаў выяўлена ў Берасці і Пінску, два - у Баранавічах, па адным - у Іванаве, Драгічыне, Бярозе і Століне. У асноўным гаворка ідзе пра гнойна-септычныя інфекцыі.

«Часта выпадкі ўнутрылякарных інфекцый рэгіструюцца ў аддзяленнях хірургіі, анэстэзіялогіі, рэанімацыі - там, дзе знаходзяцца хворыя з імунасупрэсіўным станам. У гэтых пацыентаў зніжаная ахоўная функцыя арганізма, і яны вельмі ўспрымальныя да мікраарганізмаў, якія могуць быць на руках у персаналу. Таму вельмі важна выконваць усе этапы гігіены рук, каб выключыць такія выпадкі», - адзначыла доктар Алена Вінаградава.

http://charter97.org/be/news/2016/5/5/202981/

## Вернем бел-чырвона-белы сьцяг на дзяржаўны пасад!

Напярэдадні гадавіны “рэфэрэндуму” 1995 года, на якім існы рэжым Лукашэнкі гвалтам зьмяніў гістарычны бел-чырвона-белы сьцяг на перароблены савецкі, мы зьвярнуліся да некаторых

абаронцаў нацыянальных сымбаляў з просьбаю ўзгадаць той сумны дзень, 14 траўня 1995 года, а таксама даць ацэнку акцыям у падтрымку нацыянальных сымбаляў Беларусі.

Алег Трусаў, дэпутат ВС XII склікаsuccеньня, удзельнік галадоўкі супраць прызначэньня рэфэрэндуму.

“14 траўня 1995 года я ўдзельнічаў у выбарах, якія тады Лукашэнка спалучыў зь незаконным рэфэрэндумам. Атмасфэру таго дня магу ацаніць як самотную, бо я, як гісторык, ведаю, што за рэвалюцыяй заўсёды прыходзіць контррэвалюцыя. І 14 траўня 95-га года электарат Лукашэнкі, які меней чым год таму абраў яго на пасаду прэзыдэнта, канешне, імкнуўся падтрымаць свайго кандыдата па ўсіх пытаньнях. Але адзначу вельмі цікавы момант: нават пасродкам адміністратыўнага ўціску і фальсыфікацыяў рэжым прайграў рэфэрэндум па сымболіцы! 52% маючых права голасу ці не прыйшло на галасаваньне ці прыйшоўшы прагаласавала супраць. У Менску ж Лукашэнка прайграў па большасьці пазыцый.

Ці выходзіць на недазволеныя акцыі, трэба добра падумаць. Сам я даўно не выходжу, бо за штрафы, якія потым выпісваюць трэба карміць гэты рэжым, а я лепей падтрымаю “Наша Слова” (газэта “Таварыства беларускай мовы” — Зьм. Д.). Мяркую, лепей дзейнічаць як Мірон – вывешваць незаўважна, каб і прыгожа было, і ніхто не пацярпеў. Тое, што цягам гэтых 20 год паўсюль уздымаюцца бел-чырвона-белыя сьцягі – натхняе і сьведчыць аб тым, што мы абавязкова вернем нашыя нацыянальныя сымбалі на належнае месца. Дзякуй Лукашэнку, грунтоўную аснову з падсветкай ён для гэтага ўжо зрабіў – туды таксама вывесім. Чырвона-зялёны рваць ня будзем – здадзім яго ў музэй, як сымбаль контрэвалюцыі, а бел-чырвона-белы ўсталюем дзяржаўным.”

Мікалай Аксаміт, дэпутат ВС XII скліканьня, удзельнік галадоўкі супраць прызначэньня рэфэрэндума.

“14 траўня 1995 года я быў на сваёй радзіме – у Ваўкавыску. Самае важнае, што я магу адзначыць аб тым рэфэрэндуме, гэта тое, што многія людзі ўвогуле не разумелі пытаньняў. Напрыклад, мае аднадумцы паказвалі мне бюлетэнь і хвасталіся, як яны падтрымалі бел-чырвона-белы сьцяг, прагаласаваўшы за “новы” (пытаньне гучала

так: «Ці падтрымліваеце Вы прапанову аб устанаўленьні новых Дзяржаўнага сьцяга і Дзяржаўнага эерба Рэспублікі Беларусь?» - Зьм. Д.). Я ім кажу: "Што ж вы робіце? Бярыце новы бюлетэнь!" Але бюлетэні ўжо не мянялі. Таму многія проста думалі, што новы, гэта і ёсьць наш гістарычны, бел-чырвона-белы сьцяг, які вярнуўся пасьля сямідзесяці год савецкага забыцьця.

Акцыю, якую абвесьцілі маладафронтаўцы на 21 гадавіну рэфэрэндума, лічу вельмі слушнай. Гэта як раз тое, што і трэба рабіць – выходзіць на вуліцу і дамагацца свайго, а ня ў сфабрыкаваныя выбары гуляцца".

Сяргей Навумчык, дэпутат ВС XII скліканьня, удзельнік галадоўкі супраць прызначэньня рэфэрэндума.

Як вядома, рэфэрэндум (дарэчы, незаконны, бо быў прызначаны з парушэньнем Канстытуцыі і шэрагу законаў, ня кажучы ўжо праз зьбіцьцё дэпутатаў у залі парлямэнта) сумяшчаўся з выбарамі ў Вярхоўны Савет 13-га скліканьня. Яны адбываліся у атмасфэры неверагоднай паводле маштабнасьці і цынічнасьці хлусьні, якая вылівалася на Народны Фронт і на галоўную нашую заваёву – Незалежнасьць. І, канешне, на нашыя нацыянальныя сымбалі і на беларускую мову. Гэта абсалютна ўнікальная сытуацыя ў эўрапейскай гісторыі – каб кіраўніцтва дзяржавы зьневажала мову свайго народа, яго гістарычныя сымбалі, і ўрэшце, саму гэтую дзяржаву.

Ад таго дня – 14 траўня 1995-га – у мяне засталося адчуваньне ганьбы. Але тая ж гісторыя сьведчыць, што беларускі народ – не адзіны, хто перажываў пэрыяды нацыянальнай ганьбы. І заўсёды знаходзіліся тыя, хто змываў ганьбу, хаця часам гэта каштавала вельмі дорага. Асабіста для мяне надзвычай важна, што маладыя людзі (якіх, магчыма, у траўні 95-га яшчэ не было на сьвеце альбо яны хадзілі ў дзіцячы садок) – выходзяць з нацыянальным Бел–Чырвона-Белым Сьцягом і з «Пагоняй». Гэта яшчэ адзін верны знак таго, што яны ўрэшце ізноў афіцыйна ўздымуцца над Беларусьсю.

Нагадаем, што 14 траўня на плошчы Кастуся Каліноўскага (былая Кастрычніцкая) а 12 гадзіне адбудзецца акцыя "Праспэкт нацыянальнага сьцягу", на якую маладафронтаўцы заклікаюць

прыходзіць усіх, хто прагне засьведчыць, што рана ці позна, але бел-чырвона-белы сьцяг вернецца на дзяржаўны пасад! Зробім гэта разам!

http://mfront.net/vierniem-biel-czyrvona-biely-sciah-na-dziarzhauny-pasad.html

## 20 год Вясны

20 траўня Праваабарончы центр “Вясна” ўрачыста адзначыў юбілей – 20-цігоддзе арганізацыі. Так атрымалася, што 20 гадоў таму ў гадавіну аварыі на ЧАЭС, падчас “Чарнобыльскага Шляху”, былі затрыманыя сотні грамадзян…




Грамадзкая ініцыятыва, якая аператыўна склалася дзеля дапамогі ахвярам рэпрэсій і іх сем’ ям, пераўтварылася ў праваабарончую арганізацыю, якую ачоліў Алесь Бяляцкі.

На юбілейнай вечарыне прысутнічалі кіраўніцтва і сябры арганізацыі з рэгіёнаў, паслы замежных дзяржаў і арганізацый, прадстаўнікі незалежных грамадзкіх арганізацый.

У адрас “Вясны” было сказана шмат цёплых слоў і ўручана сімвалічных падарункаў, напрыклад, ратаўнічае кола з жартаўлівым

напісам “Пратрымайся да Вясны”.

На самым пачатку ў сваёй прамове Алесь Бяляцкі сказаў: “20 год таму мы думалі, вось-вось і ўсё зменіцца, нашая праваабарончая праца не будзе патрэбная… Нажаль усё расцягнулася…”

Усе прысутныя атрымалі на памяць кнігу “20 год Вясны”, сборнік эсэ напісаных сябрамі “Вясны”, і настольны каляндар прысвечаны юбілейнай даце.

На заканчэнне ўрачыстасці вядомы гурт “Крама” даў канцэрт. Музыка гэтага гурта вярнула ветэранаў праваабарончага руху ў віруючыя дзевяностыя: “Бяжы, хлопец, бяжы…”

## Рыгор Грык падаў заяўку на пікет супраць збяднення народа

Баранавіцкі актывіст прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Рыгор Грык падаў заяўку на пікет супраць збяднення народа ў Баранавіцкі гарадскі выканаўчы камітэт. Пікет плануецца на 22 траўня з 12 да 15 гадзінаў у маладым парку Баранавіч, – кажа Рыгор Грык:

– Мэта масавага мерапрыемства – выказванне пратэсту супраць збяднення народа, росту цэнаў, камунальных паслугаў, беспрацоўя, памяншэння заробкаў і нізкіх пенсіяў. Замаўляў месца, недазволенае ўладамі, дзе ўлада праводзіць свята 1 мая. 1 мая яны праводзяць у парку, там, дзе ходзяць людзі. Я лічу, і грамадзяне маюць права там праводзіць.

Рыгор Грык адзначае, што пікеты супраць збяднення народа замаўляў на працягу 4-ох апошніх год. Але атрымліваў адмовы з прыпіскамі, што тэма неактуальная, бо народ жыве вельмі добра.

http://www.racyja.com/hramadstva/rygor-gryk-padau-zayauku-na-piket-supra/

## Грамадзяне Польшчы далі чарговы ўрок дэмакратыі

7 траўня ў Варшаве прайшла масавая антыўрадавая дэманстрацыя. Па розных ацэнках, у ёй узялі ўдзел ад 200 да 250 тысяч чалавек.

Пратэстны марш арганізаваў Камітэт абароны дэмакратыі, які выступае супраць кіруючай партыі "Права і справядлівасць". Па словах кіраўніка найбуйнейшай апазіцыйнай партыі Польшчы

“Грамадзянская платформа” Гжэгажа Схетыны, тысячы людзей сабраліся для таго, каб абараніць канстытуцыю і адстаяць месца Польшчы ў Еўропе.

Але гэты пост не пра палітыку правячай партыі Польшчы, а пра тое, што ў суседняй з намі дзяржаве, нягледзячы на камуністычнае мінулае, існуе грамадзянская супольнасць. І калі грамадзяне не згодныя з палітыкай, якая рэалізоўваецца ў дзяржаве, яны не абмяжоўваюцца дыскусіямі на кухні, а вось так, сонечным травеньскім днём выходзяць на мірны пратэст.

Лішняе будзе казаць, што сілавікі іх не разганяюць, аўтазакамі і вадамётамі не пужаюць.

## Клопат дзяржавы аб здароў’і грамадзян

12 мая ў Брэсцкай гарадской паліклініцы №2 адбыўся своеасаблівы сход. На якім разглядаліся пытанні сучаснай медыцыны ў адносінах непасрэдна да пацыентаў. Повадам для схода паслужыла калектыўны зварот гараджан да Міністра аховы здароўя, у якім ставілася пытанне пра “празмерна платнае” медыцынскае абслугоўванне.

“Кожны чалавек плаціць налогі, частка якіх і складае бюджэт медыцынскіх установ. Але, чамусьці, усё часцей і часцей мы чуем такія словы як: платныя паслугі, за ваш кошт”, – гавораць заклапочаныя пацыэнты.

“Хапае ў нас прыватных установ, ў якіх можна лячыцца платна. А калі грошай няма, мы ідзем ў дзяржаўныя ўстановы і чакаем медыцынскай дапамогі. І заўсёды яна ў нас была. А цяпер пачаўся нейкі працэс пераходу да платнай медыцыны, што нас зусім не задавальняе”, - гавораць пацыенты Брэсцкіх паліклінік і бальніц.

Ёсць на гэта адказ у берасцейскіх медыкаў. Справа ў тым, што, калі чалавек трапляе на лячэнне, бясплатна яму прадастаўляюцца ўсе паслугі, каторыя прадпісваюцца ўрачом. А калі вы захочаце, напрыклад, абследавацца дадаткова, то гэта будзе платна.

Галоўны ўрач ЦГБ, Алег Вялічка, кажа: “Платныя паслугі складаюць ўсяго 2%. І грошы з гэтых двух адсоткаў патрэбны для саміх жа пацыэнтаў. Дзякуючы ім можна зрабіць касметычны рамонт,




купіць якое-небудзь абсталяванне. Таму, што не хапае сродкаў толькі дзяржаўных. Медыцына – сфера, на каторую ў бюджэце ніколі не хапае грошай".

Прысутная на сходзе старшыня гарацкой арганізацыі БПЛ "Справядлівы Свет" звярнулася да галоўнага ўрача ЦГБ, Алега Вялічкі: "Гэта вы, калі былі дэпутатам парляманта, прагаласавалі за платныя медычныя паслугі! Зараз бы вас не выбралі!"

Урач Вялічка апынуўся дасведчаным палітыкам: "Дзенісенка піярыцца, бо ідзе на выбары…"

Пасля сходу Людзміла Дзенісенка распавяла аб запалохванні грамадзян, якія падпісаліся пад лістом ў Міністэрства Аховы Здароў'я: "Гэта мы члены партыі "Справядлівы Свет" сабралі ў Берасці 400 подпісаў супраць павышэння коштаў платных медычных паслуг і выслалі міністру. Напярэдадні сходу, шмат кага з падпісантаў наведалі супрацоўнікі міліцыі, пыталіся: "Ці гэта вы падпісвалісь? Колькі вам заплацілі? На якой падстве?… Званілі медработнікі паліклінік…" – гаворыць Людміла Дзенісенка: "Мы яшчэ будзем з гэтым разбірацца".

Тым не менш пытанні ў жыхароў Брэста застаюцца: “Працэс да перахода да платнай медыцыны пачаўся. І з гэтым трэба нешта рабіць. Можа пераглядзець законы? Можа больш выкарыстоўваць вопыт іншых краін”?

## Генеральны консулят Рэспублікі Польшча падараваў 12 рэдкасных мап

Музею гісторыі горада Брэста




17 траўня ў Берасце адбылася ўрачыстае адкрыццё выставы “Гістарычные мапы горада Берасця пачатка XIX стагоддзя”. 12 копіяў рэдкасных мап было падаравана Генеральным кансулятам Рэспубліцы Польшча з Цэнтральнага Архіва Старадаўніх Актаў горада Варшавы Музею гісторыі горада Брэста.

Акт перадачы каштоўнасцяў падпісалі прадстаўнік Генеральнага консульства РП у Брэсце Славамір Місяк і Галоўны перахоўвальнік музею Валянціна Страчук.

Старадаўнія мапы прадстаўляюць сабой унікальныя гістарычныя артэфакты – гэта мапы старага горада Берасця на месцы якога была

пабудавана Бресцкая крепасць.

Данныя мапы дают магчымасць дасканала вызначыць месцазнаходжанне ў старым горадзе пабудоў: замкі, ратушы, манастыры, касцёлы, царквы, палацы, будынкі жыхароў, плошчы і вуліцы.

Самая раньняя мапа з 1802 года, на якой можна пабачыць прозвішчы жыхароў горада і іх уласныя дамы, якія былі страчаны.

На мапе 1811 года, падпісаннай імператарам Александрам І – прадстаўлен праект развіцця горада Берасця і яго прадмесця.

Зацікаўленнасць прадстаўляе дакладная французская ваенная мапа пачатка ХІХ стагоддзя “Мапа дапушчальна затапляльнай террыторыі Брэст-Літоўска”, якую саставіў інжэнер шляхоў зносін капітан Шубурскі ў 1825 годзе.

Мерапрыемства было прысвечана Міжнароднаму Дню Музеяў, якое адбудецца 18 траўня.

## Суд за раздачу газет

Сёння адбыўся працяг суда па справе Аляксандра Шведа, фактычна за раздачу газет "Салідарнасць" каля прахадной завода ў Слоніме.

Але пратакол складзены за правядзенне пікета без дазволу па арт. 23.34 ч.1 КоАП РБ. Газеты раздаваў Швед 31.03.16, а пратакол складзены маёрам міліцыі Слонімскага РАУС - 08.04.16г.. Сведак з боку міліцыі - няма. Дадзеныя узяты са здымка з інтэрнэта. Там відаць пікетоўшчыкі, але Швед стаіць збоку і раздае газеты. Ён і не адмаўляе, што там сапраўды ён, але ж у пікеце ён не ўдзельнічаў.

Цікава, што сяброў прафсаюза РЭП з Берасьця, якія там пікетавалі і трымалі плакаты, таксама судзілі, але вынеслі папярэджаньне, а вось Аляксандра Шведа, удзел якога зусім не даказаны судом, суддзя Баранавіцкага раёна і г.Баранавічы Вольга Раманюк аштрафавала да 20 базавых велічын.

Праваабаронцы ПЦ "Вясна" з Баранавіч Сяргей Гоўша і Аляксандр Вайцешык лічаць гэты прысуд незаконным. Ніякага доказу ў суда не было і рашэнне суда яны лічаць палітычна матываваным.

Аляксандр Швед будзе рыхтаваць скаргу ў Брэсцкі абласны суд.

## Як не патрапіць у пастку ідэалогіі

Дзень Перамогі, мабыць, адна з самых складаных тэм, бо не хочацца на ёй спекуляваць як гэта робіць дзяржава. Але, як змірыцца з тым, што вялікія маршалы і генералы закідалі целамі беларусаў і ўкраінцаў ды іншых народаў усю Еуропу да Берліна? І гэта толькі адзін з аспектаў.

Нашыя разважанні пра Вялікую Айчынную Вайну традыцыйна заканчваюцца тым, што ў вайне загінуў кожны чацвёрты беларус, цяпер ужо кажуць пра тое, што кожны трэці. Але мы не кажам пра тое: як загінулі. Калі б звярталі ўвагу на гэта, то можа не насіліся ў гэты трагічны Дзень Памяці з партрэтамі Сталіна і НКУСаўцаў услед за Пуціным.

Можа, як гісторык, прывяду пару прыкладаў: Кіеў вызвалялі ў 1943 да чарговай гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі. Навабранцаў, а гэта ў асноўным былі вясковыя хлопцы 16-17-ці гадовага ўзросту, кінулі на ўмацаваныя пазіцыі немцаў, фарсіраваць Днепр з кавалкамі цэглы і са словамі: “хай, праціўнік думае, што ў вас там гранаты”. Менавіта тады вялікі маршал Жукаў сказаў: “Нахрена обмундировывать и вооружать этих хохлов? Все они – предатели! Чем больше в Днепре потопим, тем меньше придется в Сибирь после войны ссылать”.

Тады, у баях за Кіеў загінула 380 тысяч чалавек, некаторыя ўкраінскія гісторыкі называюць такое бяздумнае вызваленне любым коштам чарговым генацыдам украінскага народу.

Падобная сітуацыя была і падчас вызвалення польскай сталіцы, калі Чырвоная Армія стаяла перад Віслай, чакаючы, калі Варшаўскае паўстанне будзе задушана (па некаторых дадзеных загінула 200 тысяч чалавек, у тым ліку 33 тыс. дзяцей), а горад сцёрты з Зямлі; ці падчас вызвалення Кёнігсберга, куды кідалі байцоў 3-га Беларускага фронта, бо падчас вайны яны «адседжваліся».

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»